© PDF: Kamunikat.org 2023


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1644) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 15 ЛІСТАПАДА 1987 г. ЦАНА 12 зл.





### ПАЎСТАНЕЦ

Васіль Альшэўскі, сын Варфаламея, нарадзіўся 1 студзеня 1891 года ў Рагаўцы на Сямяціччыне ў сялянскай сям'і. У 1914 г. яго эвакуіравалі ў Петраград, там ён працаваў на славутым Пуцілаўскім заводзе. Затым В. Альшэўскага мабілізавалі ў армію, ён ваяваў з немцамі пад Маладзечнам. У 1916 г. яго зноў накіроўваюць да працы на фабрыку ўзбраення ў Петраградзе. В. Альшэўскі актыўна ўключаецца ў рэвалюцыйны рух і за ўдзел у забастоўцы і палітычнай дэманстрацыі яго



арыштоўваюць. З турмы вызваляе яго Лютаўская рэвалюцыя і ён удзельнічае са зброяй у руках у падзеях Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе. У 1918 г. В. Альшэўскі быў на сустрэчы петраградскіх рабочых з Уладзімірам Ільічом Леніным. У 1919 г. вярнуўся на бацькаўшчыну і стаў гаспадарыць.

### БАЕЦ РЭВАЛЮЦЫІ

Мікіта Артэмюк нарадзіўся ў 1894 г. у в. Піліпкі на Бельшчыне. Падчас Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіўся ў Казані, прымаў актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады. Потым дабраволыцам уступіў у Чырвоную Гвардыю. Быўшы ў Камуністычным батальёне, змагаўся супраць белагвардыстаў. У 1917-1922 гадах быў членам Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў). У 1922 г. падаўся на радзіму але на граніцы быў арыштаваны тадышнімі польскімі ўладамі. Пасля некалькіх месяцаў вярнуўся ў роднае сяло і адразу ўключыўся ў падпольны рэвалюцыйны рух — належаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У гадах 1940-41 быў дэпутатам Раённага савета працоўных у Бельску-Падляшскім. У нямецкую акупацыю супрацоўнічаў з савецкімі партызанамі.



„Каласкі" на свяце беларускай песні ў Беластоку. Салістка Люба Гаўрылюк. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ПЕРАД XI З'ЕЗДАМ БГКТ

Набліжаецца да канца тэрмін паўнамоцтваў улад, выбраных X з'ездам БГКТ, які адбыўся 4 мая 1984 г. Згодна са статутам БГКТ наступны, XI з'езд, павінен адбыцца ў маі 1988 года. У сувязі з тым чакае ўсе звенні Таварыства аграмадная арганізацыйная праца. Трэба правесці 200 справаздачна-выбарчых сходаў у гуртках, 19 канферэнцый у аддзелах, а ў канцы — З'езд. Мэта справаздачна-выбарчай кампаніі — гэта падвядзенне вынікаў працы Таварыства за апошнія чатыры гады, павышэнне актыўнасці членаў БГКТ і іх інтэграцыя, выбар улад усіх ступеняў, вызначэнне напрамкаў дзейнасці на гады 1988-1992.

На сходах, канферэнцыях і на З'ездзе будзе нагода дэталёва прааналізаваць працу Таварыства, акрэсліць яго стан, падсумаваць выкананне пастановаў X з'езда. А праблемаў у нашым Таварыстве шмат. Не ўсе гурткі вядуць пастаянную статутовую дзейнасць. Здараецца, што сходы адбываюцца рэдка і толькі тады, калі ў гурток прыязджае інспектар ГП або актывіст. Як выклікаць патрэбу дзеяння ў самым гуртку? Якія павінны быць формы працы ГП і аддзелаў з гурткамі? Гэта асноўныя пытанні, на якія трэба шукаць адказу падчас перадз'ездаўскай дыскусіі.

У гадах 1984-1985 былі пакліканы аддзелы БГКТ. Ужо сёння можна сказаць, што адыгрываюць яны вялікую ролю, сталі арганізатарамі БГКТоўскай дзейнасці на сваёй тэрыторыі. Аддзелы памалу здабываюць вопыт і неабходна далейшае ўдасканальванне іх працы.

Важная, і мо найважнейшая справа — гэта ўздзеянне БГКТ на пашырэнне зацікаўлення беларускай мовай, гісторыяй беларускага народа сярод беларускай нацыянальнай меншасці. Што яно, на жаль, малое ўсім вядома. Сведчыць аб гэтым і параўнальна малая колькасць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову і нізкі тыраж „Нівы". Як узмацніць гэтае ўздзеянне, якія прыняць формы працы з нашым насельніцтвам — гэта пытанні, на якія шукаем адказу. Мяняюцца ўмовы жыцця, мяняецца наша грамадства. Змен, дастасавання да існуючай рэчаіснасці патрабуе дзейнасць Таварыства. Традыцыйныя формы дзейнасці мо ўжо перажыліся? На тыя і іншыя пытанні не маем гатовых адказаў, гатовых рэцэптаў.

Запрашаем чытачоў „Нівы", членаў і сімпатыкаў БГКТ уключыцца ў перадз'ездаўскую дыскусію, прыняць удзел у выпрацоўцы праграмы XI з'езда БГКТ.

**Віталій Луба**
Сакратар ГП БГКТ

## КАМБІНАТАРЫ З ВАСЬКОЎ

Найперш было кароткае паведамленне з Ваяводскага суда ў Беластоку. Прэсавы прадстаўнік праінфармаваў, што ў другі карны аддзел Раённага суда ў Бельску-Падляшскім паступіў ад пракуратуры з Гайнаўкі акт абвінавачання супроць Яну Б. і чатыром іншым асобам, якія „...абвінавачаны ў тым, што будучы членамі праўлення сельскагаспадарчай спулдзельні прадукцыйнай у Васьках і дзейнічаючы супольна ды згодна дзеля дасягнення маёмасных карысцяў, не выканалі абавязкаў у галіне правільнага гаспадарання і такім чынам прычыніліся да беспадстаўнага павышэння прыбытку спулдзельні і сумы даходу, прызначанага да падзелу за 1984 год у суме 1.930.809 злотых".

*

За паясненнямі звярнуўся я ў Ваяводскі саюз прадукцыйных спулдзельняў. Там, аднак, мне сказалі, што даўным-даўно няма ўжо ў Васьках гэтых людзей, якія так заўзята дабіваліся станоўчых вынікаў у гаспадаранні васькоўскай спулдзельні, што іх паводзінамі зацікавілася раённая пракуратура ў Гайнаўцы.

Давялося ехаць у Бельск, у суд. Сімпатычная, чарнявая працаўніца гэтага суда (яна нават па тэлефону з нейкім мужчынам гаварыла па-беларуску!) паклала перада мною некалькі тоўстых папак розных дакументаў і паказанняў сведкаў ды абвінавачаных, што разам складаюцца на справу нумар II К. 576/87. Калі ласка, маўляў, разбірайся, калі цябе гэта цікавіць. Для суда гэта толькі справа і годзе. Адна са шматлікіх, якія кожны дзень безупынку малоцяць машына справядлівасці, сляпая багіня Тэміда.

*

Чытанне аднаго толькі акту абвінавачання, які саставіў пракурор Кшыштаф Парфімовіч, заняло мне амаль дзве гадзіны часу. Два разы даўжэй знаёміўся я з паказаннямі і рознымі дакументамі. І з усяго гэтага зразумеў, што пракурорскія закіды ў адрас былога кіраўніцтва прадукцыйнай спулдзельні ў Васьках у асноўным зводзяцца да таго, што:

— фальшыва была выстаўлена фактура за продаж стальных

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2023

# КАМБІНАТАРЫ З ВАСЬКОЎ

(Працяг са стар. 1)

клетак для гадоўлі свіней на суму ў амаль 700 тысяч злотых;

— звыш 400 тысяч злотых спулдзельня налічыла сабе за стальныя стоўбікі, выкарыстаныя на агароджу, якія нібыта купіла, а фактычна на гэтыя стоўбікі выкарысталі яны звыш 4 тысячы метраў стальных труб, якія засталіся ў спулдзельні з нейкай ранейшай пабудовы;

— фіктыўна паказалі ў справаздачы, што ў іх запасе застаецца з 1984 года звыш 37 тон пшаніцы, якой фактычна не было, але гэта павялічыла прыбытак спулдзельні на звыш 820 тысяч злотых.

Пракурор К. Парфімовіч прыводзіць і абгрунтоўвае шмат якія іншыя драбнейшыя факты злачыннай дзейнасці тых чатырох асоб, якія нейкі час кіравалі васькоўскай спулдзельняй. Пад канец кастрычніка ў бельскім судзе адбылася ўжо першая сесія па гэтай справе. Прыгавор аднак яшчэ не ўправамоцніўся, дык і мне нельга пакуль што аб ім гаварыць.

Аднак не прыгавор па гэтай справе мяне ў першую чаргу цікавіў. Хацелася ведаць, чаму, дзеля чаго гэтыя людзі ішлі на камбінацыі, выбіралі шлях сваіх паводзін наперакор абавязваючаму праву?

Галоўны абвінавачаны, даўнейшы бухгалтар васькоўскай спулдзельні (ён і цяпер рахункаводам, але ўжо ў іншай спулдзельні), Ян Б. адкінуў ад сябе ўсе закіды і лічыць сябе невіноўным. Так сцвярджае пракурор К. Парфімовіч. Даўнейшы старшыня паясняе, што дзейнічаў у несвядомасці, быццам бы, што яго ўчынкі нязгодныя з абавязваючым правам. Іншыя абвінавачаныя апраўдваюць сябе тым, што выконвалі загады сваіх шэфаў.

*

Я адшукаў былога старшыню васькоўскай спулдзельні. Ва ўстанове, дзе ён зараз працуе, маюць аб ім як найлепшыя меркаванні. Непасрэдны яго начальнік, жанчына разумная і разважлівая, кажа, што выконвае ён свае абавязкі проста ўзорна.

— Што вы цяпер, з перспектывы часу, аб усім гэтым мяркуеце? — звярнуўся я да гэтага чалавека.

— Што я мяркую? — уздыхнуў ён. — Стараўся, хацеў як мага найлепш, каб гэтая спулдзельня неяк вылезла з заняпаду, а выйшла так, што засмурод зіў сабе жыццё і годзе... То ж не дзеля ўласнай нажывы дапускаў я да гэтых камбінацый! — рашуча заяўляе ён.

І ў нейкім сэнсе гэта праўда. Са штучна завышанага даходу спулдзельні, прызначанага да падзелу паміж яе членамі, старшыня атрымаў 75 тысяч злотых. Іншыя абвінавачаныя адпаведна

(Працяг на стар. 3)

## НА МЯЖЫ

# АБ ДАВЕРЫ

Было гэта так. Прыбегла да мяне студэнтка моцна ўсхваляваная і заплаканая. Калі я яе спытаў, у чым справа, студэнтка доўга не магла прыйсці да раўнавагі. Урэшце крыху супакоілася, сказала, што яе муж і яго калега — таксама мае студэнты — сабраўшы большую суму грошай, накупілі многа гарэлкі, пілі цэлы дзень і вечар. Глыбокай ноччу ўзялі нажніцы, выйшлі з пакоя (усё гэта дзеялася ў студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Смычковай у Варшаве) і пастрыглі ўсе кветкі, якія знаходзіліся ў калідоры на падаконніках і ў холах. Вярнуліся ў пакоі, папілі сабе яшчэ, пераламалі ўсю мэблю, перабілі посуд, пападалі на падлогу і заснулі. Са здзіўленнем сцвердзіла студэнтка, што ніводзін з іх у найменшай ступені не пакалечыўся. Раніцай усталі і пайшлі ў бар „Pod Skocznią", дзе сядзяць дагэтуль і прапіваюць рэшту грошай. Студэнтка зноў пачала плакаць і прычытваць: „Што ж я пераджу цяпер? Я ж адна з дзіцём! Гэтых грошай мела нам хапіць на ўвесь месяц, а ён (яе муж) прапіў усё за адну ноч!"

Я абяцаў студэнтцы, што пагавару з яе мужам і з яго сябрам. Калі студэнтка пайшла, моцна прызадумаўся, бо не вельмі ведаў, як маю гаварыць са студэнтамі. Гэта першае. А, па-другое, не ведаў, ці ўсё сказанае студэнткай — гэта праўда. На другі дзень паклікаў я студэнтаў да сябе. Прыйшлі і затрымаліся ў дзвярах. Хаця здарэнне гэта адбылося дзесяць гадоў таму назад, як сёння бачу гэтыя дзве постаці. Абодва хлопцы былі вельмі высокія і прыстойныя. Вочы мелі спушчаныя. Іх фігуры вымоўна сведчылі аб пачуцці віны. Калі я іх спытаў, ці ёсць праўдай усё тое, што я пачуў аб іх учарашніх паводзінах, абодва адказалі, не падымаючы вачэй: „Праўда". Тады я, што называецца — пайшоў у атаку і сказаў ім наступнае:

— Тое, што вы зрабілі, сведчыць аб тым, што сваю стыпендыю выдаткоўваеце не на тую мэту, на якую яна прызначана. Значыць, пагражае вам пазбаўленне стыпендыі. Па-другое, захаваліся вы па-хуліганску. Знішчаючы дзяржаўную маёмасць, даказалі, што не заслугоўваеце на тое, каб жыць у інтэрнаце. Значыць, пагражае вам тое, што выкінуць вас з інтэрната. Па-трэцяе, ваша захаванне можа мець дэмаралізуючы ўплыў на студэнтаў і таму факультэцкія ўлады могуць вас выкінуць з універсітэта. Калі мне паабяцаеце, што болей ніколі нешта падобнае не здарыцца, не буду нікога паведамляць і ўсю справу неяк замажам.

Студэнты выразна пераўвасобіліся, павесялелі і ў адзін голас адказалі: „Абяцаем". Я ім сказаў, каб яны выйшлі з пакоя, падумалі, вярнуліся і каб на маё пытанне адказалі індывідуальна, кожны за сябе.

Вінаўнікі выйшлі, вярнуліся індывідуальна і сказалі, што больш ніколі нічога такога не зробяць.

І што вы, дарагія чытачы, думаеце? Хачу сказаць, што студэнты слова стрымалі. Да канца навукі не меў я найменшага сігналу аб іх неадпаведных паводзінах. Напісалі яны добрыя магістэрскія работы, абаранілі іх і пачалі працаваць на Беласточчыне. Адзін з іх выязджаў у Амерыку на некалькі гадоў. Другі быў дырэктарам школы і інспектарам. Заслужыўся для справы навучання беларускай мовы ў школах. Абодва яны — шанаваныя грамадзяне і працаўнікі.

Часта вяртаюся думкамі да гэтай справы і пытаю самога сябе, ці правільна паступіў я ў адносінах да гэтых студэнтаў. Прызнаюся, што ў асноўным задаволены я з метаду, які прымяніў да гэтых студэнтаў. Аднак толькі ў асноўным. Не дае мне спакою адна справа. Сумняваюся ў адным. Ці не трэба было запатрабаваць ад іх звароту грошай за знішчаную мэблю? Тут для гістарычнай праўды хачу дабавіць, што студэнты абломкі мэблі пацішку павыносілі з пакоя, пахавалі Бог ведае ў якія куткі, і, адчакаўшы крыху, пайшлі да загадчыка інтэрнату, дзе зла жылі пратэст: чаму гэта ў іх пакоях няма мэблі тады, калі ва ўсіх іншых пакоях яна ёсць! Загадчыца паверыла „крыўдзе" маіх студэнтаў, выдала ім новую мэблю.

Калі сёння думаю часам аб гэтай справе, дык перад усім у тым аспекце, што давер і дараванне віны часам можа даць лепшы рэзультат, чым пакаранні. Пры гэтым хацелася б выказаць іншую рэмініцэнцыю. Не апраўдваючы паступка студэнтаў, здаецца мне, што кожны чалавек мае права на аднаразовае глупства.

**Алесь Барскі**

# САЛІДНАЯ КРЫНІЦА

Гадавік *Studia polono-slavica-orientalia. Acta litteraria**), які заснаваў і рэдагуе шырока вядомы ў сусветнай славістыцы вучоны праф. Базыль Белаказовіч, з самага пачатку выдатна выконвае ролю навуковага форуму даследаванняў узаемных польска-ўсходнеславянскіх літаратурных і культурна-грамадскіх сувязей. Дзесятая кніга гадавіка, якая выйшла з друку ў канцы лета бягучага года, таксама прысвечана польска-руска-ўкраінска-беларускім літаратурна-культурным сувязям асветленым з польскага боку. Як і трэба было чакаць, гэтае юбілейнае выданне цалкам адведзена агляду і абагульненням дагэтуль праробленага.

Вядомыя ранейшымі сваімі важкімі публікацыямі Марыя Хаенцкая і Людвіка Язукевіч-Аселкоўская ў абшырным даследаванні *Літаратурныя польска-рускія сувязі ў польскіх даследаваннях* прадстаўляюць грунтоўны агляд, праводзяць сістэматызацыю і даюць ацэнку аграмаднай колькасці матэрыялу, які паявіўся ў друку ў гадах 1970-1985. З яго адназначна вынікае, што ў Народнай Польшчы найбольш плённа працуюць у гэтай галіне дзве школы даследчыкаў: варшаўская на чале з яе стваральнікам і вядомым вучоным Б. Белаказовічам і вроцлаўская — на чале з выдатным славістам Марыянам Якубцам. Адзначаем гэты факт з асаблівай прыемнасцю; бо як вядома, праф. Б. Белаказовіч паходзіць з Бельска-Падляшскага і ў 60-70 гадах на старонках „Нівы" і „Беларускіх календароў" апублікаваў шэраг адкрыўчых артыкулаў пра беларуска-польскія сувязі і выдатных людзей Беласточчыны.

З цікавай спробай па-сучаснаму даць агляд польска-ўкраінскіх суадносін выступае ў гадавіку Яраслаў Грыцкавян у артыкуле *Польска-ўкраінскія літаратурныя сувязі*. Артыкул каштоўны і для тых, хто цікавіцца беларусазнаўствам, бо ён кранае і праблемы беларуска-ўкраінскага літаратурнага сумежжа і супрацоўніцтва.

Навуковы працаўнік Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук д-р Уладзімір Стохель змясціў у гэтай жа кнізе грунтоўны артыкул *Польска-беларускія літаратурныя сувязі ў святле польскіх навуковых даследаванняў (Учора і сёння)*. У ім пасля агульных згадак пра пачынальнікаў даследаванняў польска-беларускіх грамадска-культурных узаемасувязяў як А. Брукнер, Л. Васілеўскі, Б. Жыранік, Я. Галомбэк, С. Станкевіч і іншых У. Стохель скрупулёзна разглядае публікацыі, якія з'явіліся ў Народнай Польшчы па гэтаму пытанню. У групе прац па польска-беларускіх фальклорных узаемасувязях разглядаецца шэраг артыкулаў. У іх ліку Уладзіміра Монаха — многагадовага настаўніка беларускай пачатковай школы і агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску, цяпер дырэктара Бельскага медычнага ліцэя — пра пласты беларускага фальклору ў творчасці Э. Ажэшковай, У. Сыракомлі, А. Міцкевіча. Адзначаны шматлікія артыкулы праф. Францішка Сяліцкага з Вроцлаўскага універсітэта, які ў іх выклаў асабістыя навуковыя назіранні над багатым фальклорам краіны свайго дзяцінства — Вілейшчыны на Міншчыне. Абмеркаваны публікацыі Марыі Чурак пра польскія песні ў „Людзе беларускім" М. Федароўскага і сааўтарстве з Міколам Врублеўскім пра народныя песні паўднёвай Беласточчыны. Таксама прадстаўлены артыкулы Міколы Гайдука пра радзінныя і веснавыя абрадавыя песні Беласточчыны і Міхася Шаховіча пра народныя вераванні на паграніччы польскай і беларускай культур.

Гістарычна-літаратурным польска-беларускім узаемасувязям прысвечана большая колькасць публікацый. У артыкуле гаворыцца пра наватарскія і інспіратарскія працы ў даследаваннях польска-ўсходнеславянскіх узаемасувязей праф. Б. Белаказовіча. Заслужана адводзіцца шмат месца публікацыям У. Стохеля, які плённа працуе над вывучэннем польска-беларускіх грамадскіх і літаратурных сувязей, асабліва ў Студзеньскім паўстанні 1863-4 гадоў, на старонках „Нашай нівы" і інш. Абмеркаваны таксама артыкул д-ра Аляксандра Баршчэўскага пра ролю польскай літаратуры ў творчасці Я. Купалы. З увагай разгледжаны публікацыі са зборніка *Мост праз стагоддзі*. З належнай пільнасцю прадстаўлены публікацыі пляннага польскага славіста У. Вільчынскага пра У. Сыракомлю, Я. Лучыну. Адзначаны артыкул д-ра Юрыя Туронка пра гутарку *Дзядзька Антон*, а таксама кнігі Аляксандры Бергман пра Б. Тарашкевіча і беларускія справы ў міжваеннай Польшчы. Знаходзім таксама звесткі пра публікацыі Вацлава Шаршуновіча, Марыі Хаенцкай, Людвікі Язукевіч-Аселкоўскай, Фларыяна Няўважнага і іншых даследчыкаў польска-ўсходнеславянскіх узаемасувязей.

Юбілейны, дзесяты том *Studiów polono-slavica-orientalia. Acta litteraria* — гэта салідная крыніца ведаў пра даследаванні польска-ўкраінска-беларускіх узаемасувязей у Народнай Польшчы. І кожны, хто пазнаёміцца са зместам з гэтага аб'ёмістага гадавіка, увачавідкі пераканаецца, што польскае славяназнаўства многа зрабіла ў гэтай дзялянцы, хоць шмат яшчэ працы перад ім наперадзе.

**Мікола Гайдук**

*) Studia polono-slavica-orientalia. Acta litteraria, X. Instytut Słowianoznawstwa PAN, Ossolineum 1987.

© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

10 кастрычніка 1987 г. на пасяджэнні Прэзідыума ГП разглядаліся пытанні Варшаўскага аддзела БГКТ.

Аддзел быў паклікаены ў 1984 годзе. Зараз у ім 4 гурткі і 320 членаў. Найбольш актыўныя дзеячы яго — гэта мясцовая беларуская інтэлігенцыя і студэнты вышэйшых навучальных установ. У клубе БГКТ, які быў заснаваны ў 1956 г., вядзецца пастаянная праца, разлічаная на шырокі круг членаў і сімпатыкаў Таварыства. Адбываюцца тут сустрэчы з літаратамі і вучонымі, чытаюцца лекцыі па гісторыі Беларусі, вядуцца іншыя цікавыя формы клубнай працы. Як паінфармаваў старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ д-р Мікалай Аляксеюк, цяпер клуб пераведзены ў новае месца, на вуліцу Старасцінскую 1„б", памяшканне Е. Умовы тут намнога лепшыя, чым на вул. Сенатарскай. Клуб будзе больш прасторны, размешчаны на двух паверхах у сучасным гмаху са шкла і алюмінію. Для новага клуба неабходна новае абсталяванне, кошт якога складзе каля 2 млн. злотых. Прэзідыум ГП падтрымаў неабходнасць фінансавай дапамогі Варшаўскаму аддзелу БГКТ. Вырашана прадбачыць патрэбныя сродкі ў бюджэце на 1988 г. і выступіць да кампетэнтных улад з просьбай пра іх забеспячэнне.

У сувязі з тым, што ў маі 1988 года канчаецца кадэнцыя ўлад выбраных Х з'ездам БГКТ, Прэзідыум ГП пачаў падрыхтовачныя працы да правядзення справаздачна-выбарчай кампаніі ў Таварыстве. Прэзідыум адобрыў праекты дакументаў:

— палажэнні аб справаздачна-выбарчай кампаніі перад XI з'ездам,

— інструкцыю па выбару дэлегатаў на канферэнцыі аддзелаў і XI з'езд БГКТ. (л)

## ДРУГІ ГАЙНАЎСКІ РЭЙД

„Я яшчэ пад уражаннем выстаўкі Лёніка. Хоць вярнулася вельмі позна дадому, была надта задаволена з магчымасці пабываць на гэтай выстаўцы ў Беластоку. Высылаю вам здымкі з нашага рэйду, аб якім я вам гаварыла. Вельмі шчыра і горача вітаю вас — Аня Аверчук з Арэшкава."

Дзякуй, Аня!

Такі ліст я атрымала на трэці дзень пасля таго, як у рэдакцыю зайшла група маладых людзей — вучняў з Гайнаўкі і студэнтаў, якія прыехалі пабачыць выстаўку Лёніка Тарасэвіча ў беластоцкай галерэі Арсенал.

Тава і адтуль назад у Гайнаўку прыехалі поездам.

У Арэшкаве было таксама што паглядзець. Наведалі тут царкву, глядзелі крыжы на магілах паўстанцаў і старыя млыны.

У Лозіцах агледзалі помнік савецкім салдатам і такі помнік наведалі ў Тапіле. І так дайшлі да Доўгага Броду. Аня расказвае: „У Доўгім Бродзе жывуць слаўныя Вапы. Мы начавалі ў мамы і таты Геніка і Юркі Вапаў. У іх яшчэ двух братоў. Цудоўная сям'я! Начавалі ўсе ў хаце. Некаторыя, праўда, рваліся на сена спаць, але тата Геніка сказаў, што будзе холадна і трэба спаць у хаце. А мама Вапаў цэлую амаль ноч сядзела і слухала нас, бо мы амаль усю ноч спявалі песні".



Тыповы абразок з маладзёжных і студэнцкіх рэйдаў: адпачынак, радасць, сядзенне на падлозе, гітара і песня. Як добра маладым быць разам!

Сярод маладых людзей маю ўвагу звярнула сваёй непасрэднасцю адна светлавалосая дзяўчына, якая на дадатак свабодна, чыстай літаратурнай беларускай мовай пачала расказваць пра іхні маладзёжны рэйд, які вось толькі што адбыўся на вельмі цікавым шляху праз пушчанскія вёскі і які разагрэў сэрцы ўсіх яго ўдзельнікаў.

Рэйд праходзіў 2, 3 і 4 кастрычніка. У ім удзельнічала каля 40 чалавек, у тым 15 чалавек з Бельска, з Беларускага ліцэя і Сельскагаспадарчага тэхнікума. Іншыя з Гайнаўскага беларускага ліцэя і некалькіх студэнтаў.

Рэйд пачаўся ў Гайнаўцы. Паглядзелі яны найперш гайнаўскую царкву, потым у Беларускім ліцэі адбылася сустрэча з дырэктарам Аляксандрам Іванюком, які расказаў пра гісторыю і сённяшні дзень школы. Сустрэча цягнулася амаль цэлую ноч. Праспявалі маладыя людзі многа песень і расказалі сабе ўзаемна многа цікавага. Потым пайшлі праз Арэшкава, Лозіцы, Тапіла, Доўгі Брод, Ві-

У Доўгім Бродзе моладзь наладзіла вогнішча і атрасціны для тых, хто не быў на першым рэйдзе. Цудоўны быў час! Моладзь Гайнаўскага беларускага ліцэя мяркуе вясною сарганізаваць разам з дзяўчатамі з Бельска рэйд „Развітанне".

Я рада знаёмству з беларускай дзяўчынай Аняй Аверчук з Арэшкава, вучаніцай III класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Аказваецца, наша першае знаёмства адбылося нейкі час таму ў святліцы ў Дубінах, дзе група дзяўчат якраз з Гайнаўскага беларускага ліцэя пачала вывучаць беларускія танцы. Аня танцуе ў дубінскім народным калектыве. А яе мама — член калектыва „Арэшкі" ў Арэшкаве. Аня прывезла мне радасную вестку, што жанчыны ў Арэшкаве збіраюцца на спеўкі і працуюць над новай праграмай, рыхтуюцца да конкурсу „Беларуская песня-88".

**Вера Валкавыцкая**

## КАМБІНАТАРЫ З ВАСЬКОЎ

(Працяг са стар. 2)

меншыя сумы. Як на гадавую прэмію, гэтакі дадатковы прыход у сямейнай касе не такі ўжо і вялікі. Адным словам, скурка не аплочвалася за выраб.

— Каб я хацеў узбагаціцца, — гаворыць ён, — дык у такім камбінаце, як гэтая спулдзельня, знайшлося б дзесяткі іншых спосабаў, каб выгаспадараваць сабе адпаведна высокія сумы. Станоўчы вынік у даходах на канец года быў патрэбны не мне, як старшыні, і не кіраўніцтву спулдзельні, але яе членам і працаўнікам, каб яны не разбегліся на ўсе бакі свету, не атрымаўшы зарплаты за свае працадні. Быў ён патрэбны і банку, які пагражаў спыненнем усялякіх крэдытаў, нават гэтых сум штомесячных грошай, якія неабходны на зарплату наёмным працаўнікам. Адным словам, спулдзельні пагражала банкроцтва...

Стараюся зразумець яго вывады, але перш за ўсё ведаю, што аніякія, найбольш высакародныя імкненні не апраўдваюць учынкаў, нязгодных з правам і грамадскімі нормамі сужыцця.

*

Хацелася мне паглядзець, дзеля чаго так, бы́цццам бы, стараўся гэты даўнейшы старшыня. Прадукцыйная спулдзельня ў Васьках раскінулася за вёскай. Гэта аграмадны комплекс жывёлагадоўчых і гаспадарчых будынкаў, які здалёк нагадвае болей нейкі прамысловы камбінат, чымсьці сельскагаспадарчае прадпрыемства.

Прыняў мяне старшыня Уладзімір Нікіцюк — чалавек параўнальна яшчэ малады, магістр інжынер па сельскай гаспадарцы. Ён тут толькі ад жніўня 1987 года.

— Падманулі мяне, — кажа. — Абяцалі памяшканне ў доме настаўніка ў Нарве і не далі.

Пасля тамтога, што трапіў пад пракурора, гэта ўжо другі старшыня ў Васьках. Спулдзельня ў гэтай вёсцы існуе ўжо з 1950 года. І ніколі яна не славілася высокімі гаспадарчымі дасягненнямі. Нейкі час уваходзіла ў састаў аграмаднага нараўскага сельскагаспадарчага шматзвеннявога камбіната, які распаўся ў 1983 годзе. Адначасова ўсім прадукцыйным спулдзельням давалася разлічваць выключна на ўласныя сілы і фінансавыя магчымасці. Гэта паводле прынцыпу, што ўсе сектары сельскай гаспадаркі поўнасцю роўныя перад дзяржавай.

Цяпер васькоўская спулдзельня аб'ядноўвае 40 членаў. Гаспадарыць яны на 300 гектарах зямлі, з чаго 250 га — гэта ворыва. Зямля ў асноўным V і VI класу. Прыгодная пад жыта і авёс. У гэтым годзе плён збожжа склаў тут амаль 28 цэнтнераў з гектара. Але асноўны напрамак

(Працяг на стар. 8)

## У НАШЫХ ТВОРЦАЎ



Уладзімір Наумюк Абед у полі.
Фота М. Гайдука.

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
## ГУТАРКІ АБ МОВЕ

Мова — гэта грамадская з'ява, гэта сродак зносін паміж людзьмі і сродак мысліцельнай дзейнасці.

Беларуская мова — гэта родная мова беларусаў, у якіх заўсёды яна павінна быць у пашане, павінна быць мовай найдаражэйшай сэрцу, нягледзячы на існуючыя перашкоды, якімі могуць быць, напрыклад, тэрытарыяльнае аддаленне ад Беларусі, білінгвізм (двухмоўе), або полілінгвізм (шматмоўе) яе носьбітаў.

Цыкл *Гутарак аб мове* запланаваны з такой мэтай, каб коратка паказаць гісторыю беларускай мовы і яе сучасны стан, каб растлумачыць залежнасць, выступаючую паміж мовай і гістарычнымі ўмовамі яе функцыяніравання, каб звярнуць увагу на факт, што развіццё мовы і яе росквіт залежаць не толькі ад унутрымоўных фактараў, але таксама ў вельмі вялікай ступені ад фактараў пазамоўных, звязаных перад усім з моўнай палітыкай дзяржавы.

Цыкл *Гутарак аб мове* будзе складацца з чатырох частак: I. Узнікненне і развіццё беларускай літаратурнай мовы; II. Характарыстыка беларускай народнай мовы; III. Суадносіны паміж сучаснай беларускай літаратурнай мовай і народнымі гаворкамі; IV. Характарыстыка сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

(Працяг на стар. 8)



© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

# „Я здарожыўся трохі...“

Сцяпан Аўсенюк нарадзіўся 30 красавіка 1959 г. у Зубаве, што на Бельшчыне. Тут закончыў васьмігадовую школу з беларускай мовай навучання. Тут прамінула наша супольнае дзяцінства. У сям'і было нас двое, а наш дом стаіць на хутары. Аніякіх іншых дзяцей блізка нас не было, і я з братам дружна гулялі, а калі падраслі, гэтак жа дружна працавалі на гаспадарцы. Гэтая сувязь самая блізкая майму сэрцу.

Пасля нашы дарогі трохі размінуліся. Я пайшла вучыцца ў Эканамічны ліцэй у Бельску, а брат паступіў у пяцігадовы Тэхнікум меліярацыяў у Беластоку. У той час я пачала працаваць у Беластоку і часта бываць у Беластоцкім клубе БГКТ. Цікавілася хорам „Каласкі“ і тэатральнай групай пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. Аднаго разу даведалася, што гэтай групе бракуе кандыдатаў у акцёры і я тады запрапанавала брату, каб ён уступіў у тэатральную групу Крупы. І так пачалі мы ездзіць з беларускімі прадстаўленнямі па Беластоцкім краі. Разам з хорам „Каласкі“.

Закончыўшы тэхнікум, брат паступіў на працу ў меліярацыйнай фірме ў Бельску. Неўзабаве быў ён прызваны ў войска. Служыў там у Рэпрэзентацыйным аркестры Польскага Войска, у Варшаве. Падчас ваеннага становішча ў краіне, перавялі брата на службу ў Альштынскае ваяводства. Цяжкія гэта былі дні, поўныя неспакою ды напружанасці. Узімку 1982 г. Сцяпан ажаніўся ў Беластоку з Яўгеніяй Унучка, з якой пазнаёміўся ён у хоры „Каласкі“.



Жылі яны трохі ў Беластоку, пасля пераехалі да бацькоў у Зубава. Неўзабаве атрымаў Сцяпан пасаду ў Бельскім прадпрыемстве сельскагаспадарчага будаўніцтва, згадзіў прыватную кватэру, у якую пераехала і яго жонка Яўгенія. Пачалі стала жыць яны ў Бельску. Нарадзіліся дзеці, сын Тамаш, потым дачка Маніка. А я, працуючы ў Бельскім энергетычным раёне. арганізавала тэатральны калектыў. І тут не абыйшлося без сям'і Аўсенюкоў. Сцяпан не шкадаваў сваіх сілаў, аж часамі здзіўлялася я, адкуль яны, гэтыя сілы, і бяруцца ў яго!? У сваёй фірме ён яшчэ ладзіў спартыўны гурток, дзейнічаў і ў Таварыстве польска-савецкай дружбы, стаў членам партыі, актыўна займаўся і прафсаюзнымі справамі, прымаў удзел у дзейнасці Польскага чырвонага крыжа, аддаваў сваю кроў як добраахвотны донар. Быў наваг ушанаваны адзнакаю „Заслужаны донар“. Любіў ён людзей, быў вялікім чалавекалюбам! На яго кожны мог паспадзявацца, ці ў бядзе якой або ў клопаце. Месца работы было яго другім домам. Дапамагаючы фірме ў розных крытычных сітуацыях, ездзіў іншы раз цэлымі тыднямі па ўсёй Польшчы, каб здабыць патрэбныя матэрыялы, без якіх фірма магла б спыніць сваю дзейнасць.

У вальнейшую хвіліну ён, Сцяпан, дапамагаў мне нават здымкі вырабляць для маіх карэспандэнцыяў у „Ніву“. Любіў сардэчна беларускую мову і культуру, слухаў беларускія пласцінкі, часта падспеўваў сабе вядомую песню „Вы шуміце, шуміце, нада мною, бярозы...“

Загінуў мой брат Сцяпан трагічна, 22 чэрвеня г.г., едучы матацыклам да сям'і з Бельска ў Беласток. Гэтае страшнае здарэнне мела месца ў Праневічах, у адвячоркавы час. Яму было ўсяго дваццаць восем год.

Каля магілы ў Бельску, дзе Ён пахаваны, шумяць дзве бярозы, усё роўна што нагадваючы словы той песні: „Я здарожыўся трохі, я хвіліну пасплю...“

**Яўгенія Аўсенюк-Мартынюк**

---

**Вынаходніцтва і рацыяналізатарства**

**У „ЭЛЬМАШУ“**

1. У прадпрыемстве пабудовы тэхналагічных абсталяванняў „Эльмаш“ у Беластоку калектыў у складзе: Базыль Маркевіч, Тадэуш Мусял і Лявон Грыгарук апрацаваў і ўкараніў у прадукцыю станкі да апрацоўкі драўніны. Гэтае вынаходніцтва прынясло прадпрыемству больш за 3 мільёны даходу. Станок атрымаў патэнтную ахову.

2. Затым Лявон Грыгарук з Ежым Букерскім і Адамам Вэнславам удасканалілі механізм да апрацоўкі правадоў, што дало прадпрыемству больш за 5 мільёнаў зл. эканамічнага эфекту.

3. Уведзена ў вытворчасць ўдасканаленая Юзэфам Леончакам і Казімірам Матыяшкам машына для намотвання дратоў прынесла „Эльмашу“ ашчаднасць 10 мільёнаў зл.

**У ПРАДПРЫЕМСТВЕ ВЕТЭРЫНАРЫІ**

Вынаходніцтва і рацыяналізатарства неабходнае таксама ў гадоўлі жывёлы. Е. Грэчка падрыхтаваў новы від пашы для свіней. Яна дае большы прырост вагі і спрыяе значнаму змяншэнню падзення жывёлы, асабліва парасят. **(мх)**

---

Вельмі часта шэф пасылаў Юрку за таварамі ў камандзіроўку, часам на некалькі дзён. Тады кватэра запаўнялася сябрамі Віялеты, з якімі знаёмілася кожны дзень ходзячы па кавярнях, клубах і рэстаранах. Інтэнсіўнае жыццё Віялеты давяло да таго, што ў чацвёртым месяцы неданасіла Юркавага патомка...

Ад нейкага часу Магда стала паяўляцца ў школе вельмі пабітая і паабдзіраная. Магда, дзіцё сумнае і замкнутае ў сабе. маўчала. Гэта адбылося і працягвалася якраз пасля таго, як Юрка раней вярнуўся з камандзіроўкі. У хаце панавала атмасфера быццам у нейкім „цёмным“ клубе. На „відэо“ катлаваліся распранутыя групы розных полаў, амаль тое ж чаўплося ў хаце, паміж парожнімі бутэлькамі з чужаземнымі напіткамі. У дзіцячым пакойчыку на дыване спала п'яным сном Віялета ў абдымках нейкага культурыста. Магда начавала ў бабулі. Юрка спачатку паказаўся „сябрам“, „роўным фацэтам“, але пасля першы раз моцна пабіў жонку. І цяпер дзень у дзень Віялета пацiху лупцавала Магду. Магда адразу са школы ехала да бабулі, бацька ўвечары прыязджаў, забіраў, крычаў. Дзяўчынка маўчала, тулячы свайго мішку. Так усе пратрывалі да канікул. Магда паехала ў лагер (я апекавалася яе групай), а бацькі — на самаходную экскурсію па Скандынавіі.

І так плылі год за годам — цэлых пяць. Магдзе было ўжо дванаццаць, Віялеце — 23. Бабуля пазнаёмілася з амерыканскім удаўцом, які наведаў „стары край“, а потым забраў яе ў Чыкага. Запрасіла туды Юрку, абяцала залатвіць яму добрую працу, у яго прафесіі і ў фірме мужа. Пруцца ж людзі за акіян на менш пэўны хлеб, а што тут гаварыць аб Юрку, які і мову ведаў добра, і ехаў да цёшчы.

І так жылі сабе. Віялета балявала за грошы, якія прысылаў муж, а Магда... Магда вучылася, як быць сястрой міласэрнасці пры прабабцы, ледзь ужо жывой. Аднойчы Віялета паказала Магдзе чамадан пад лесвіцай і таксі ды адправіла жыць да бабулькі.

Ляцяць пісьмы і пачкі з Амерыкі. Прабабка дзеліцца сваімі скарбамі з праўнучкай.

— Ні грошыка табе не дам, ты, байструк, — тыцае фігу Магдзе пад нос Віялета, калі сустрэнуцца недзе выпадкова. — Няхай бацька цябе забірае, калі мяне там, у Амерыцы, не хоча.

Прабабка апісвае дочцы і Юрку крыўду Магды і паводзіны Віялеты. Магда піша бацьку пісьмы, але як заўсёды, не наракае. Віялета атрымоўвае ад мужа паведамленне аб разводзе.

Прабабку забіраюць у бальніцу з кровазліццём у той дзень, калі да Магды прыходзіць ліст ад бацькі з паведамленнем, што ён ніколі ўжо не вернецца ў Польшчу, у яго ёсць новая жонка і маленькі сынок.

Магда не чытае пісьма да канца, дзе напісана: „Люблю цябе, мой каханы Магдзік, праз пару месяцаў будзем ужо разам“. Магда бярэ свайго мішку, едзе ў цэнтр горада і ўзбіраецца ліфтам на дзесяты паверх. Гэта самы высокі будынак у горадзе, але ліфт вышэй не ходзіць. Свеціць холадна асенняе сонца, а людзі зверху — як мурашкі, бегаюць, занятыя сваімі справамі. Яны праз хвіліну замітусяцца, спалохаюцца, калі ўгледзяць дзіця на бетоне, з мішкам у пасінелых пальцах.

**Міра Лукша**

---




# АДЗІН ДЗЕНЬ ПАНІКІ

Якраз канчаў я снедаць, калі пазванілі мне з гміны і сказалі па тэлефоне, што ў нашай святліцы павінна быць чыста ды акуратна. Да гэтага гміннік упаўнаважыў менавіта мяне, старога ўжо чалавека, які даўным-даўно перастаў хадзіць на маладыя гулі. Гэтую намінацыйную смяшноту спрабаваў я ўтлумачыць яму, але ён заўпарціўся. Не выратавала мяне нават і тое, што трэба было рыхтык бульбу ў полі капаць...

— Вы, Семянюк, не адкладвайце справу, а галава ў вас моцна сядзіць на карку, — трапятаўся той у тэлефоннай трубцы. — Будзе санітарная інспекцыя з Варшавы, а Варшава гэта вам не хіханькі! І што тады падумаюць у Варшаве пра нашу вёску Райкі, га?

Што рабіць, што чыніць, ці сабаку зарэзаць? — узяў я мятлу ды паваlокся з ёю ў тую няшчасную святліцу. Аднак, на мой вялікі і радасны ўздзіў, нехта апярэдзіў мяне, нейкая шляхетная душа навяла ўжо сякі-такі парадак у святліцы пасля апошніх скокаў у ёй з суботы на нядзелю.

Але вестка пра — аж варшаўскую! — санітарную інспекцыю даляцела-дабегла і да малочнага пункта. О, там чысціня пачалася! Кіраўнічка ўмомант дала наказ зліваць малако ў кантэйнер ды праз лейку з бялюткім палатняным цадзілкам. У выніку такой чыстаты ўтварылася чарга людзей з банкамі малака, бо малако пачалі прымаць акуратна, па ўсіх правілах.

У той незвычайны дзень давялося мне пабываць і ў ветэрынарні. І тут адчуваўся ўрачыста-трывожны настрой, стаяў тлум чакаючых помачы гаспадароў і нікога не было відаць з персаналу, папрападалі кудысьці. Адзін дзядзька ўзяўся кракtаць, што ў іх, значыць, у Орлі лепшы парадак... На падворышчы ўгледзеў я шафёра і запытаў у яго:

— А якое ж гэта мае быць свята ў вашай ветэрынарні, што такі вэрхал усюды?

— А гэта санітарная інспекцыя маецца наехаць, таму ўсе і забегалі наперад і назад, — адказаў ён мне больш-менш гэтак.

Зірнуў я яшчэ і на пункт скупкі, а там, бачу, аж сінее ў вачах ад міліцыі! Сяржанты ўзяліся за парадкі.

„Ну, — падумаў я. — Каб так часцей падобная паніка выбухала ў нашым староннi, то можа перасталі б мы грузнуць у варварскім брудзе, і лямпачкі на вуліцы нашай, можа, нарэшце засвяціліся б у мордабойную цемру восеньскую...“

**Валянцін Семянюк**



© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

(Працяг са стар. 3)

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## I. УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ.[1])

### 1. Беларуская мова ў сям'і індаеўрапейскіх моў

Беларуская мова, так як і кожная іншая мова, знаходзіцца ў безупынным развіцці. На працягу стагоддзяў яе існавання адбыліся і адбываюцца ў ёй розныя змяненні, выкліканы фактамі чыста лінгвістычнымі — заканамернасцямі развіцця мовы, або фактамі экстралінгвістычнымі (пазамоўнымі), цесна звязанымі з гісторыяй народа і з моўнай палітыкай дзяржавы. Адны змяненні адбываюцца вельмі хутка, г. зн. за кароткі час, а другія — вельмі павольна, на працягу доўгага часу.

Сёння ў свеце ёсць каля 3000 моў. Апрача гэтага ёсць некалькі дзесятак мёртвых моў. Усе яны групуюцца ў моўныя сем'і. Моўная сям'я — гэта сукупнасць роднасных моў. Паводле мовазнаўцаў, іх каля 250. Найбольшую колькасць носьбітаў налічвае сям'я індаеўрапейскіх моў: амаль палову ўсяго чалавецтва. Тым часам калі індаеўрапейскіх моў толькі каля 150, значыць, складаюць яны толькі 5 прац. ад агульнай колькасці ўсіх моў, выступаючых у свеце.

Большасць лінгвістаў індаеўрапейскую моўную сям'ю падзяляе на 10 груп, з якіх 8 груп заключае ў сабе мовы, існуючыя да сённяшніх дзён. Гэта наступныя групы: 1. індаіранская, 2. армянская, 3. грэчаская, 4. албанская, 5. раманская, 6. кельцкая, 7. германская, 8. балтаславянская. Дзве апошнія групы складаюць сёння ўжо мёртвыя мовы: 1. анаталійская, 2. тахарская. Апрача гэтага, праўдападобна да індаеўрапейскай моўнай сям'і ўваходзіла яшчэ некалькі іншых моў старажытнай Еўропы і Азіі.

Балтаславянская група падзялілася на тры меншыя групы: славянскую, усходнебалтыйскую (літоўская і латвійская мовы) і заходнебалтыйскую (сёння ўжо вымершыя мовы ці дыялекты колішніх прусаў, пражываючых паміж ніжняй Віслай і ніжнім Нёманам, а таксама на Вармії і Мазурах, і дыялекты яцвягаў, якія жылі на Сувальшчыне. Іх дыялекты зніклі ў XVII ст. Па прусах асталіся тэксты з XV і XVI ст.ст., а па яцвягах — толькі невялікая колькасць уласных назваў). Некаторыя лінгвісты спалучаюць мовы ўсходнебалтыйскія з заходнебалтыйскімі ў адну групу — балтыйскую; іншыя ідуць яшчэ далей і гавораць пра дзве самастойныя групы індаеўрапейскіх моў: балтыйскую і славянскую.

Як лічаць гісторыкі, выдзяленне славян з агульнаіндаеўрапейскага адзінства адбылося да пачатку III тысячагоддзя да нашай эры. Славяне жылі на невялікай тэрыторыі ў блізкім суседстве, карыстаючыся адной мовай — праславянскай, ці, як яе яшчэ называюць, агульнаславянскай. Апрача агульных рыс, выступаючых у праславянскай мове па ўсёй славянскай тэрыторыі, у ёй былі і дыялектныя адрозненні, якія пачалі паглыбляцца ў апошнія стагоддзі да нашай эры, калі славяне пашырылі тэрыторыю, на якой жылі. У сувязі з тым, што славяне пачалі засяляць вялізную тэрыторыю, наступіла паслабленне сувязі паміж паасобнымі славянскімі групамі, што прывяло да вялікіх адрозненняў у іх мове і ў канцы канцоў да распаду агульнаславянскага адзінства, які наступіў не пазней, як у VI стагоддзі нашай эры.

З гэтага часу пачынаецца гісторыя трох славянскіх моў: 1. усходнеславянскай (агульнаўсходнеславянскай), 2. заходнеславянскай, 3. паўднёваславянскай. З часам наступіў далейшы іх падзел. Сёння гаворым аб трох групах славянскіх моў: 1. усходнеславянскай, якую складаюць беларуская, украінская, руская мовы; 2. заходнеславянскай, да якой належаць польская, чэшская, верхнелужыцкая і ніжнелужыцкая мовы; 3. паўднёваславянскай, якую ўтвараюць балгарская, сербахарвацкая, македонская і славенская мовы, а таксама СЦС — старацаркоўнаславянская мова, сёння толькі літургічная мова.

Падзел на тры славянскія моўныя групы цесна звязаны з моўнымі рысамі (фанетычнымі, марфалагічнымі, лексічнымі) паасобных моў, супольнасць якіх дазваляе аб'ядноўваць некалькі моў у адну моўную групу, а таксама адпавядае і геаграфічнаму размяшчэнню, г.зн. тэрыторыі, якую засяляюць носьбіты моў.

**1) Літаратура да тэмы Узнікненне і развіццё беларускай літаратурнай мовы:**

Barszczewski A. Historia literatury białoruskiej. Okres Rusi Kijowskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego, Warszawa 1981.

Weinsberg A., Gramatyka porównawcza języków indoeuropejskich, Warszawa 1986.

Жураўскі А. І., Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, Мінск 1967.

Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І., Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, Мінск 1968.

Красней В. П., Шакун Л. М., Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, Мінск 1978, 1986.

Шакун Л. М., Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск 1966, 1984.

Шакун Л. М., Гісторыя беларускай мовы, Мінск 1986.

Языки и диалекты мира, Москва 1982.

Янкоўскі Ф., Гістарычная граматыка беларускай мовы, Мінск 1974-1977, 1983.




Дарагое Сэрцайка, парай, што рабіць. Тры гады назад я пазнаёмілася з вельмі сімпатычным хлопцам Жорам. Быў ён вельмі здольны, закончыў вышэйшую адукацыю, меў добрую пасаду. Не буду табе гаварыць дакладна, але была ў яго так званая вольная прафесія. Было нам разам вельмі добра і мы пажаніліся. Праз год нарадзіўся ў нас сынок. А сёння вось дзіцяці нашаму ўжо паўтара года, а я хаджу, быццам дурная, не ведаючы, да каго звярнуцца за дапамогай. Справа ў тым, што ў кругу знаёмых майго мужа апынуўся адзін наркаман. I вось калісьці, калі мой муж наведаў яго, ён яго „пачаставаў". Муж мой, хаця хлопец вельмі добры, то ўсё ж мае даволі слабы характар. Гэта быў пачатак яго і маёй бяды. Муж мой ад таго часу ўцягнуўся ў наркаманію. Але ж, Сэрцайка, я не магу зразумець аднаго: наркаманы ж прымаюць наркотыкі, каб паправіць свой настрой, каб дадаць сабе вітальных сіл, праўда? А ў майго мужа пасля наркотыкаў паяўляецца нейкая агрэсія. Не скажу, не б'е, не лаецца, не крануў ні мяне, ні дзіцяці. Аднак што трапіць яму пад рукі, то ўсё ў хаце пераб'е і перанішчыць. І ў апошні час, відаць, стаў карыстацца наркотыкамі амаль штодзень, бо штодзень у хаце гучна. Я тады ўсё ж вельмі баюся, а найбольш баюся за дзіця. Яно ж ужо, беднае, пачынае разумець, што нешта з бацькам тут не так. Пачынае баяцца і ўцякаць ад яго. І ў гэтых умовах я вырашыла, што больш цярпець не буду. І думаю падаць у бліжэйшы час на развод. Няхай адразу так станецца, то мо і дзіця такога бацькі памятаць не будзе. Лепш адразу, чым цягнуць. Але што я скажу сваім бацькам, яны ж дагэтуль нічога не заўважылі, я ім на свайго мужа ніколі не скардзілася. Ці зразумеюць яны мяне і ці пахваляць за мой учынак?

**Бася**

Бася! Бацькі за тое, што ты хочаш разбіць сям'ю, напэўна цябе не пахваляць. Калі ж ты растлумачыш ім, што твая сям'я і так фактычна ўжо разбіта пры дапамозе гэтага паскуднага парашку, то, думаю, усё зразумеюць. Але спачатку падумай, ці не варта заняцца лячэннем твайго мужа! Наркаманаў жа лечаць, і напэўна чула ты пра Марка Катанскага. Такія лекары ёсць і ў нас у Беластоку. Калі будзеш у рэдакцыі, зайдзі да нас, мо зможам табе дапамагчы звязацца з імі.

Горш будзе, калі з лячэння нічога не выйдзе, бо твае просьбы і заклінанні напэўна нічога не зробяць, не дапамогуць твайму мужу адвыкнуць ад наркотыкаў. Мусіла б ты быць вельмі моцнай індывідуальнасцю, каб перамагчы гэту хваробу: наркаманію. Можна было б вывезці сваю сям'ю кудысьці, найлепш у глухое месца, пазбавіць мужа магчымасці атрымаць наркотыкі. Ну й пастарацца заняць яго думкі нечым іншым, уліць у яго новае жыццё.

Развод будзе тым апошнім крокам, што зможаш ты зрабіць у гэтай сітуацыі. Усё ж дзіця зробіш паўсіратою. Але так праўду кажучы, і ад бацькі-наркамана карысць невялікая. Ды й ці доўга ён гэтак пацягне?

**Сэрцайка**

*— Добра будзе — напрацуешся, кепска будзе — нагаруешся.*

*

*Ждала, ждала — дый годзе сказала.*

# СОННІК

98

**Рыфмы** (для верша) падбіраць — добрая будучыня; чытаць — улюбёнасць ва ўласную асобу; чуць — гульня, адпачынак.

**Рыцар** — здзяйсненне планаў.

**Рыштаванне** — даходная пасада; вер у свае сілы.

**Рэбры** — глыбокае засмучанне.

**Рэвальвер** — пераможаш праціўнікаў.

**Рэдут** — вясёлая гульня, забава.

**Рэзаць** — страта ў заробках, даходах; дрэва — фальшывыя суджэнні, меркаванні; іншы прадмет — згрызота.

**Рэзеда** (кветка) — шчасце ў каханні.

**Рэліквіі** — засмучанне.

**Рэнтген** — дарэмныя пошукі.

**Рэпа** — сямейныя непаразуменні; збіраць з поля — фізічная моц; есці — моцны гнеў, злосць.

**Рэстаран** — дарагая забава.

**Рэха** — прыемнае наведанне.

**Рэцэпт** — хуткае выздараўленне; фальшывыя звесткі.

**Сабака** — верны прыяцель; шалёны — прыяцелю пагражае небяспека; гуляць з ім — прымірэнне; брэша — радасць; нападае на цябе — небяспека; укусіў цябе — сварка з-за грошай; палюе — карысць дзякуючы пільнасці; на павадку — непрыяцель; на ланцугу — асцерагайся злодзея; кусаецца — сварка ў сям'і.

**Сава** — чуць яе — засмучанне, хвароба; бачыць — непрыемны візіт; лятучая — пазбегнеш небяспекі; на даху — даведаешся пра смерць.

(Працяг са стар. 3)

## КАМБІНАТАРЫ З ВАСЬКОЎ

— гэта гадоўля курэй і свіней. 13-15 мільёнаў штук яек прадаюць яны ў год.

— А як цяпер у вас суадносіны з банкам? — пацікавіўся я.

— Неяк ладзім, — адказаў старшыня. — Вось і сёння якраз у нас выплата. А ў лістападзе перадаём у карыстанне чацверты куратнік.

Уладзімір Нікіцюк з тутэйшых сялян, родам з суседняй вёскі, і людзі з ім гавораць пасвойму. І таму замяніў гаманлівы Беласток на ціхую вёску. Можа яму ўдасца вывесці васькоўскую спулдзельню на цвёрды шлях пастаяннага прагрэсу? Ён ведае, што ва ўмовах ажыццяўлення суровых правіл гаспадарчай рэформы, можна разлічваць толькі і выключна на ўласную кемлівасць. Трэба моцна цяпер падумаць, каб выйсці на сваё. Але не наперакор праву, як яго папярэднікі.

**Віктар Рудчык**



© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023

# Зорка

## Старонка для дзяцей

## Прысягаюць першакласнікі

У жыцці кожнага чалавека ёсць хвіліны, якія назаўсёды астаюцца ў памяці.

Нядаўна ў школе ў Нараўцы адбылася ўрачыстая прысяга першакласнікаў. Яны абяцалі сваім бацькам, выхавацельніцам і дырэктару школы добра вучыцца, слухацца настаўнікаў, шанаваць сяброў. Дырэктар школы аграмадным белым пяром назначаў кожнага першакласніка вучнем. Другакласнікі ўручылі сваім малодшым сябрам кветкі, а вучні восьмага класа школьныя эмблемы.

За гэта вучні I„а“ і I„б“ класаў спявалі песні, дэкламавалі вершы, а потым частаваліся тортам, яблыкамі і гарбатай.

Кожны першакласнік атрымаў памятны фотаздымак, які зрабіў настаўнік фізікі Валянцін Кандрацюк.

**М. Варанецкі**



Дырэктар школы мгр Мікалай Герасімюк назначае аграмадным пяром кожнага першакласніка.



## Пяць братоў-цудадзеяў

**Латышская казка**

Адна ўдава, ад сваёй беднасці, аддала чатырох сыноў яшчэ маленькімі батрачыць у чужых людзей, а пры сабе пакінула самага малодшага. Разбрыліся яе сыны па свеце — хто ведае, кім яны сталі, чаму навучыліся!

Рос малодшы сын у маткі, як алень. На восьмым годзе жыцця падымаў ён два мяхі са збожжам. Пачаў ён падрастаць, пачало ў яго сілы прыбываць. Пойдзе малодшы сын у лес па дровы — як ухопіцца за яліну, як ірване, дык разам з карэннямі і выцягне. І празвалі яго людзі Асілкам.

Вось аднойчы зайшоў Асілак у далёкі лес. Ухапіўся за тоўстую ёлку, вырваў яе, раптам бачыць — за ёлкай Стралок стаіць са стрэльбай за плячыма. Пакланіўся яму Асілак, пытае:

— Ну, як, пашчаслівілася?

— Чаму ж не пашчасліўіцца! — адказвае Стралок. — Я ж страляць мастак: за сто вёрст адсюль вялікі дуб стаіць, на галінцы дуба камар сядзеў. Толькі што я пацэліў яму ў левае вока.

Захацелася Асілку паглядзець — ці праўду Стралок сказаў.

— Давай сходзім паглядзім! — кажа ён.

Пайшлі яны разам. Далёкая дарога — доўгая размова. Пытае Асілак, адкуль Стралок родам ды хто яго маці? Кажа Стралок: было ў яго маці пяць сыноў, ды ад беднасці аддала яна іх у чужыя людзі яшчэ маленькімі, а апошняга пакінула пры сабе.

— Э-э! — кажа Асілак. — Ды ты, відаць, брат мой!

Узрадаваліся яны сустрэчы — не заўважылі, як трыццаць вёрст прайшлі. Раптам бачаць, ідзе ім насустрач нейкі чалавек у шапцы набакір, ідзе і пасвіствае... Спынілі браты Свістуна, пытаюць — куды ідзе, чаму шапку на адно вуха насунуў. Адказвае ім так Свістун:

— Калі надзену я шапку як трэба — будзе так холадна, што шапка інеем пакрыецца.

Бачаць браты, што гэты хлопец таксама не промах.

— Хадзем з намі — кажуць.

— Чаму не пайсці, — адказвае ім Свістун.

Па дарозе пытае Асілак у Свістуна, адкуль ён родам, хто яго маці? Адказвае Свістун: было ў яго маці пяць сыноў, ды ад беднасці аддала яна чатырох у людзі яшчэ маленькімі, а пры сабе пакінула малодшага.

— Э-э! — кажуць яму хлопцы, — ды ты, відаць, брат наш!

Узрадаваліся яшчэ больш і пакрочылі разам.

Ішлі, яны, ішлі — бачаць, стаіць каля дарогі чалавек росту немалога, да ног млыновыя жорны прывязвае.

— Хіба так ісці лягчэй? — пытаюць у яго.

— Мне інакш нельга! — адказвае ім чалавек. — Калі не падвяжу я камені да ног, дык так пабягу, што мігам вакол свету аббягу.

Бачаць тры браты, што і гэты хлопец не промах.

— Хадзем з намі! — кажуць яму.

— Чаму не пайсці.

Пайшлі яны разам. Пачалі распытваць Скарахода па дарозе, адкуль ён родам ды хто яго матуля? Адказвае Скараход: было ў яго маці пяць сыноў, ды ад беднасці аддала яна чатырох малых людзям для навукі, а пятага пры сабе пакінула.

— Э-э! — кажуць яму браты, ды мы з табой, відаць, з-пад адной страхі.

(Працяг на стар. 10)

## Папугай і сыр

Прыляцеў з Афрыкі Папугай. Купіў у магазіне сыру. Залез на дрэва і думае: „Адпомшчу Лісе за тое, што яна ў Вароны сыр выманіла“.

Прыбег Сабака. Убачыў Папугая з сырам — пачаў брахаць і бегаць вакол дрэва. А Папугай сядзіць, увагі не звяртае. Пабрахаў Сабака і пабег далей.

Прыйшоў з лесу Дзік. Убачыў Папугая з сырам — пачаў дрэва падкопваць. А Папугай сядзіць — не варухнецца. Парохкаў Дзік ды падаўся ў лес.

Прытупаў Мядзведзь. Убачыў Папугая з сырам — зароў, каб спалохаць. А Папугай сядзіць, быццам нічога не чуе. Пайшоў Мядзведзь.

Прывалокся Воўк. Убачыў Папугая разам з сырам — завыў на ўвесь лес. А Папугай сядзіць ды слухае, нібы гэта чароўная музыка. Пацягнуўся і Воўк глыбей у лес.

Паказалася Ліса.

— Ну, нарэшце! — сказаў Папугай.

Рот адкрыўся, сыр выпаў, і застаўся Папугай у дурнях.

**Мікола Капыловіч**

## Беларускія музычныя інструменты




Ні адно вяселле, ні адно свята не праходзіла без скрыпача. Скрыпка, або скрыпіца, распаўсюджана па ўсёй Беларусі. Сустракаюцца фабрычныя і самаробныя скрыпкі.

## Беларускія птушкі

**Авяр'ян Дзеружынскі**

### Сінічка

Віць-віць-віць,
Віць-віць-віць,
Дзе я зімку
Буду жыць?
Буду жыць,
Як пад страхой,
Пад сасной,
Пад снегавой.
Віць-віць-віць,
Віць-віць-віць,
Буду жыць
І не тужыць.
Стане халадна
Ў ляску, —
Стане галадна
Ў ляску, —
Я ў садок
Пералячу,
Пасялюся
У садку.
Дзеці зерняў
Мне дадуць,
У кармушкі
Пакладуць.
Віць-віць-віць,
Віць-віць-віць,
Буду жыць
І не тужыць!



**Пятро Прыходзька**

### Сінічка

Я паклаў кавалак сала
У паперцы на балкон.
І сінічка прадзяўбала
Мой пакуначак, бо ён

Для яе тут заставаўся
Снежнай раннюю парой.
Перад ёй малой зямля ўся
У белы сцелецца сувой.

З неба чыстага, як знічкі,
Усё ляцяць сняжынкі ўніз.
Што ж ты, бедная сінічка,
Не ляціш на мой карніз?

Не глядзі самотна ў неба,
Да мяне крылляй бліжэй.
Дам яшчэ я сала, хлеба,
Адчыню акно шырэй.



© PDF: Kamunikat.org 2023

# З ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА



Малая Адрыянка Семянюк вельмі любіць ездзіць у вёску Плюцічы да сваёй прабабулі Надзі. І прабабуля яе чакае і вельмі цешыцца, калі малая прыедзе. Тады ідуць разам на агарод. Паглядзіце, як 3-гадовая Адка заўзята дапамагае бабцы Надзі капаць бульбу! Матыкі — з рук не вырваць!

**Фота А. Ч.**

## Вясёлы куточак

Пытаецца сястра свайго малодшага брата:

— Кім ты хацеў бы быць, калі вырасцеш?

— Лекарам.

— Так? Ты, мабыць, не ведаеш, колькі разоў на дзень лекар павінен памыць рукі!

— ✳ —

Мама злуецца на сваю Алёнку:

— Настаўніца казала, што ты на ўроку англійскай мовы моцна спала. То праўда?

— Праўда, мама. Але ж ты сама казала, што замежную мову найлепш можна вывучыць у сне.

— ✳ —

— Тата, — гаворыць Коля, — я ўжо сам умеў бы паехаць на нашай машыне, я ж ужо вялікі!

— Ты ўмеў бы, але машына не! — адказвае тата.

— ✳ —

— Міра, пакажы мне на карце Новы Йорк.

— Не магу, — адказвае Мірка. — У мяне старая карта.

— ✳ —

— Мамачка, дай мне дваццаць злотых! Там на дарозе стаіць дзядзька і так жаласна крычыць...

— Што крычыць?

— Марожанае, марожанае...

## Пазнаёмімся

БССР, 231800, г. Слонім-6, вул. Дабрыяна, 6-А, кв. 1. Ваня Цішко, 2 клас.

✳

БССР, 231800, г. Слонім-6, вул. Карбышава, 21, кв. 1. Лена Адаська, 3 клас.

✳

РСФСР, 190000, г. Ленинград, ул. Плеханова, 39, кв. 54. Оля Лапшина, 5 клас.

✳

БССР, 222320, Мінская обл., Маладзечанскі р-н, п/о Краснае, вул. Камсамольская, д. 5, кв. 6, Чарняўская Аксана.

✳

БССР, 220124, г. Мінск, вул. Лынькова, д. 43, кв. 67, Наташа Капусціна.

✳

СССР, 301782, Тульская обл., г. Донской, пос. Шахтёрский, ул. Комсомольская, 2, кв. 15, Терских Света, 4 клас.

✳

СССР, 163019, г. Архангельск, ул. Приморская, д. 15, кв. 1. Серых Лена, 4 клас.

✳

СССР, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Пичугина, 17, кв. 1. Прохоренко Марина, 14 год.

(Працяг са стар. 9)

## ПЯЦЬ БРАТОЎ-ЦУДАДЗЕЯЎ

І пайшлі яны далей — вось ужо і дзевяноста вёрст канчаецца.

Хай сабе, дзевяноста дык дзевяноста!

Ішлі, ішлі. Бачаць — стаіць на дарозе чалавек, адну ноздру заткнуў.

— Хіба так дыхаць лягчэй? — пытаюць у яго браты.

— Лягчэй не лягчэй, — адказвае ім чалавек, — ды калі я абедзве ноздры адкрыю, такі вецер уздымаецца, што і дрэвы паляцяць!

Глядзяць на яго браты — хлопец таксама не промах. Тут пытае ў яго Асілак:

— А што, хлопец, у тваёй маці ці не пяць было сыноў?

— Пяць, — кажа Узвейвецер.

— Цябе толькі нам і не хапала!

І пайшлі яны разам. Прайшлі яшчэ дзесяць вёрст. Знайшлі камара на дубе — праўда, пацэліў яму Стралок у левае вока. Падзівіліся браты з таго, што кожны з іх так налаўчыўся сваю работу рабіць, і пайшлі дадому, да маткі. Ну і ўзрадаваліся ж яна!

Пагасцілі-пагасцілі браты дома, а час ідзе — трэба думаць пра тое, як маці і сябе пракарміць. І вырашылі яны пайсці па свеце — работу сабе па сіле шукаць. Сказана — зроблена!..

**Заканчэнне ў наступным нумары.**



## Слаўныя людзі Беларусі

## УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Князь Усяслаў наследваў свайго бацьку, князя Брачыслава, і панаваў у Полацкім княстве ў гадах 1044-1101. Яму давялося часта ваяваць, каб абараніць незалежнасць Полацкай зямлі і пашырыць яе ўладанні.

У 1067 годзе ў кровапралітнай бітве на рацэ Нямізе (каля сённяшняга Мінска) полацкія войскі былі разбіты, а князь Усяслаў трапіў у палон. Яго завезлі ў Кіеў і пасадзілі ў „поруб“ — моцны, цесны, без выхаду зруб. Праз некалькі месяцаў кіяўляне паўсталі супраць свайго дагэтуляшняга князя, прагналі яго, а затым вызвалілі з „поруба“ і ўзвялі на вялікакняскі кіеўскі пасад Усяслава. Аднак яму не па сэрцу было панаваць у чужой зямлі, і ён пры першай нагодзе вярнуўся на княжанне ў родны Полацк.

За яго панавання Полацкая зямля дасягнула свае найбольшай велічыні і магутнасці. З кожным годам ёй прыбывала новых моцных крэпасцяў, гарадоў, вёсак. Добра ўзброеныя воі пільна ахоўвалі граніцы княства ад непрыяцельскіх нашэсцяў. На рамястве і гандлі багацелі і разрасталіся гарады. У іх жыло і працавала многа таленавітых майстроў: цесляроў, кавалёў, збройнікаў, гарбароў, ганчароў, калёснікаў, суднабудаўнікоў, залатароў і іншых.

Пры князю Усяславе ў Полацку быў пабудаваны велічны Сафійскі сабор. Змуравалі яго полацкія дойліды, аздобілі іконамі мастакі, аснасцілі літургічным начыннем ювеліры, абяспечылі кнігамі перапісчыкі. Полацкі Сафійскі сабор славіўся сваім адметным выглядам, прыгажосцю і багаццем.

Пра незвычайную мудрасць і выдатныя подзвігі князя Усяслава людзі складалі легенды, спявалі песні і назвалі яго Чарадзеем.

**Мікола Гайдук**



Воіны, 11-12 стагоддзе.

## Вучнёўская творчасць

Чытачам „Зоркі“ вельмі спадабалася беларуская казка „Залатая яблынька“. Многія прысылаюць свае ілюстрацыі да яе. „Зорка“ вельмі дзякуе.



Анэта Юзвовіч, кл. VI, Чаромха-вёска.

## АДГАДАНКА

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | × | | − | | =3 |
| + | | − | | + | |
| | × | 2 | − | | =9 |
| : | | × | | : | |
| | × | | + | | =9 |
| =3 | | =6 | | =3 | |

У пустыя квадрацікі ўстаўце лікі так, каб правільна рашаліся ўсе арыфметычныя дзеянні, як з левага боку на правы, так і зверху ўніз.

### „ЗОРЧЫНА ПОШТА“

**Ася Коўнер з Ласінкі.** Дарагая Ася, дзякую за прысланую казку, толькі па-польску не друкуем. Я вельмі прашу цябе, пастарайся запісваць ад старых людзей, можа ад бабулі ці дзядулі, свае казкі — так як яны расказваюць. Многа яшчэ ведаюць нашы старэйшыя людзі цікавых казак і добра было б, каб школьнікі, якія любяць пісаць і цэняць народную спадчыну, пачалі іх патрохі запісваць. „Зорка“ іх зможа апрацаваць і друкаваць.

**Кшысь Кшыжак з Бельска.** Твае новыя графікі я атрымала, яны будуць вывешаны на „Зорчынай“ выстаўцы ў рэдакцыі. Кшысю, старайся ўжо рысаваць з натуры і больш вобразна.

**Данута Ільяшук з Кленікаў** атрымлівае кніжку за правільную развязку адгаданкі „Цікавая арыфметыка“. Мусіць ты, Дануся, любіш матэматыку?

© PDF: Kamunikat.org 2023

З суседскага агародчыка

# ЧАЛАВЕК У ФУТАРАЛЕ

Наперад час наўмольна
шпарыць —
Няма калі перадыхнуць.
А чалавек у футарале
Усяго баіцца, як агню.
На новае глядзіць ён кісла
І паўтарае разоў сто:
„Ах, каб...
Ах, каб чаго не выйшла,
Ах, каб не здарылася што..."
Герой, вядома, ён не новы,
Хоць і не чэхаўскі герой,
Але страшыцца ён абновы.
Яму б — цішэй,
яму б — спакой.
Ва ўсім сягоння абнаўленне,
Каб маладзеў, мацнеў наш лад.
На словах ён — за паскарэнне,
Але з аглядкаю назад.
Яго туды наўмольна цягне,
Нібы тапельца вір уніз,
Многаабліччы —
хай ён спрахне!
Замшэлы той кансерватызм.
На словах — за перабудову.
Маўляў, ён гэтай з'яве рад.
Ва ўсім і скрозь ён за абнову.
Але... з аглядкаю назад.
Ён асцярожнічае ў меру.
І скажа пры выпадку нат,
Што рухае прагрэс наперад,
Хоць цягне, нібы рак, назад.

**Уладзімір Правасуд**



# НІЎКА



**Філосафы.**
**— Між намі — гэта і ёсць ісціна!**

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Міколка, ідзі пацалуй цётку!
— Навошта, мама, я ж сёння ўвесь дзень быў добры!

### АБОЕ РАБОЕ

Ноч. На мосце сустракаюцца два панурыя індывіды.
— Колькі гадзін?
— Не ведаю. У мяне таксама яшчэ няма гадзінніка.

### НАВЕДВАЛЬНІК

Наведвальнік падыходзіць да афіцыянта, які стаіць пры буфеце.
— Гэта я ў вас заказваў абед?
— У мяне.
— Ну вось, бачыце. Ледзьве я вас пазнаў, гэтак вы пастарэлі...

### НЕ ПАДВЯДЗІ

Задрыпкоўскія ідуць па вуліцы. Раптам пані Задрыпкоўская прыкмячае, што насустрач ідзе яе сяброўка ў новай сукенцы.

— Вось ідзе Марыя, — гаворыць яна мужу. — Калі яна зраўняецца з намі, спыніся і скажы ёй, што ў яе цудоўная сукенка.

— Дзеля чаго? Табе хочацца зрабіць ёй нешта прыемнае?

— Наадварот. Я ўчора запэўнівала яе, што ў цябе страшэнны густ.



**Яго універсітэты: паўтараў чужыя памылкі і вучыўся на сваіх.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Вядомая кіназорка з абурэннем гаворыць:
— Гэтыя нязносныя журналісты ўвесь час перабольшваюць. Палова хлусні, якую яны распаўсюджваюць аба мне, не адпавядае рэчаіснасці.

*

Адвакат выступае ў судзе:
— Пане суддзя, калі чалавек мае васемнаццаць судзімасцей, ён ужо не злачынца.
— Хто ж ён?
— Калекцыянер.

*

Хлопец да дзяўчыны:
— Як вы думаеце, падыйшоў бы я вашаму бацьку ў якасці зяця?
— Думаю, што так. У яго густ цалкам процілеглы майму.

*



**— Ад заўтрашняга дня вы можаце больш не прыходзіць сюды раніцамі, фру Енсен!**

### ПРЫКМЕТА

— Якія абыякавыя адносіны ў сённяшніх дзяўчат да музыкі!
— Чаму так гаворыш?
— А паспрабуй сыграць ім пад акном серэнаду, ніводная не выйдзе. А націсні толькі самаходны сігнал — усе выбягуць на вуліцу.

З „Веснікa Задрыпоніі"

### ВЫНІКІ РЭКАНСТРУКЦЫІ

Выдатна змяніліся пасля рэканструкцыі цэхі Ачуцінаўскага механічнага завода. Там, дзе раней прастойвалі дваццаць рабочых, цяпер прастойвае адзін станок з лікавым праграмным кіраваннем.

З суседскага агародчыка



**— Муж з працы прынёс — думаў, тэлевізар, а гэта ЭВМ.**

### МІНІВЕРШЫ

### ПА СТРОГАМУ РЭЖЫМУ

— Чаго стаіш, падпершы дзверы?
— Бо жонка выгнала з кватэры.
— У чым ты, браце, правініўся?
— Ды начаваць дамоў спазніўся.

**А. Лешчанка**

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

**Але, захапіўшыся хвалюючай сцэнай, не забудзь адшукаць 15 адрозненняў у гэтых на першы погляд аднолькавых малюнках.**



# КУРЁЗЫ

### КОНКУРС КРЫКУНОЎ

Звычайна японцы спакойныя, вытрыманы і не праяўляюць знешне сваіх пачуццяў. Аднак раз у годзе, у пярэдадзень Новага года, ім выпадае нагода зняць сабранае напружанне. Гэты перыяд можна назваць сезонам крыку.

У Токіо нават праводзяць конкурс крыкуноў, у якім ацэньваецца як сіла крыку, так і яго змест. Крычаць можна на адвольную тэму, але ёсць і конкурсныя заданні, напрыклад: „Што мяне больш за ўсё ўзлавала ў гэтым годзе". На мінулым спаборніцтве



адной з конкурсных тэм была камета Галея. Перамог студэнт, які гаркнуў з сілай звыш ста дэцыбелаў: „Да сустрэчы праз семдзесят год!" Сярод жанчын перамогу атрымала адна гаспадыня, якая закрычала з сілай 110 дэцыбелаў: „Хто ўкраў у мяне бялізну?!!"

Накрычаўшыся, японцы зноў замыкаюцца ў сабе, ветліва ўсміхаюцца, схіляюцца ў паклонах і ціха запашваюць напружанне, якому дадуць выйсце толькі пад канец наступнага года.




**Не задавай бязглуздых пытанняў — можаш пачуць разумны адказ.**

© PDF: Kamunikat.org 2023